Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 1 (25) Субота, 12 Студзеня 1929 г., м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5.

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ



## Трагэдыя беларускае інтэлігэнцыі.

Беларуская працоўная інтэлігэнцыя перажывае ў апошні час страшэнны матэр'яльны крызыс. Калі толькі сытуацыя не палепшыцца (а на палепшаньне пакуль няма ніякай надзеі), дык і тэй рэштцы беларускае інтэлігэнцыі, якая волею лёсу затрымалася на тэрыторыі Зах. Беларусі, пагражае голад, развал і дэморалізацыя. А адсюль лёгка зразумець, якія гэта будзе мець рэзультаты для ўсяго Беларускага Народу. Бо народ бяз уласнае інтэлігэнцыі, як чалавек бяз мозгу, нічога ня варты: гэта толькі сыры матэр'ял, гной для чужой культуры.

Калі паглядзім на адну з нялічных галінаў працы для беларускае інтэлігэнцыі—на прэсу, якая давала хоць нязначны заробак сталым газэтным працаўнікам у Вільні і карэспандэнтам на правінцыі, дык прыдзецца сканстатаваць поўны яе разгром.

Радыкальная прэса пасьля сталых канфіскацыяў зусім спынілася. Полёнофільскі ворган п. Умястоўскага «Беларускі Дзень» «па непрадбачаным абставінам» сам ціха сканаў. Відаць, непатрэбны стаўся больш. «Маўр зрабіў сваё, маўр можа ўйці...»

«Беларуская Крыніца» толькі дзякуючы нязвычайным высілкам сваіх барацьбітоў-ксяндзоў яшчэ пакуль што трымаецца. Але гэтак сама невядома, як перажыве вісячую над сваей галавой анафему, якую Віленскі Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі загадаў прачытаць падуладным ксяндзом з амбоны. «Сялянская Ніва» выходзе раз у месяц.

Застаецца яшчэ пэрыядычная часопісь пасла д-ра-філёлёга Я. Станкевіча «Народ», у якім заўсёды шмат лаянкі, а дзеля гэтага ніхто-б нічога не страціў, каб гэтага воргану і зусім ня было.

З вялікаю прыкрасьцю мусім прызнацца, што і нашым часопісям—«Грамадзяніну» і «Беларускаму Раднаму» гэтак сама пагражае хуткі канец дзеля зьмяніўшайся матэр'яльнае сытуацыі выдаўца п. Вернікоўскага, у якога з прычыны канкурэнцыі з польскім клюбам вайсковых эмэрытаў застала адабрана канцэсія на лёто.

Пакуль з гэтае крыніцы ішлі грошы на падтрыманьне беларусаў, дык польская віленская прэса ўвесь час патрэбавала ад уладаў закрыцьця гэтае нібыта „jaskini“ («шулерні»). А калі цяпер пасьля адабраньня канцэсіі ад п. Вернікоўскага і польскіх каляёўцаў, якія акрамя гэтага яшчэ дапушчалі ў сябе газартовую гульню ў карты, засталася адна канцэсія ў польскіх ваенных эмэрытаў, атрымліваючых пэнсіі ад скарбу, дык усе і маў-

чаць. Гэта нікому ня коле вачэй. У беларускіх руках — дык гэта была «шулерня», «газарт», а ў польскіх — «патрыятычная справа!»

Мы-б можа не парушалі гэтага пытаньня, калі-б з адабраньнем ад п. Вернікоўскага канцэсіі ня быў зьвязаны лёс Т-ва «Прасьветы» на Віленшчыне і Беларускі Самаўрадавы Камітэт. Як ведама, на гэтыя сродкі падтрымліваліся: 81 гурток «Прасьветы» з 54 бібліятэкамі і чытэльнямі пры іх, з 4 тэатральнымі трупамі, 2 футбольнымі камандамі і г. д. Больш-асць з іх атрымлівалі кожны месяц грошы на канцэлярскія выдаткі, на наймо памешканьня для чытальняў і раённых сэкратар'ятаў.

Але з новым годам гэтыя субсыдыі будуць спынены. Гурткі «Прасьветы» на Віленшчыне больш ня могуць рахаваць на падтрыманьне з цэнтру і самі павінны паклапаціцца аб сваім далейшым лёсе. З гэтаю мэтаю Старшыня Акружнае Рады п. Вернікоўскі ў хуткім часе выедзе на правінцыю і на мейсцы вырашыць разам са старшынямі гурткоў пытаньне аб далейшым лёсе ўсяго Т-ва «Прасьветы» ў зьвязку з наступіўшым матэр'яльным крызысам.

Паведамляем аб гэтым загадзя, каб старшыні гурткоў мелі час абгаварыць гэтую справу з сябрамі і падрыхтавалі адпаведныя пастановы, бо агульнае акружнай зборкі дэлегатаў усіх гурткоў ня будзе дзеля адсутнасьці сродкаў.

Гэткім чынам адна з найвялікшых і старэйшых культурна-асьветных беларускіх арганізацыяў гэтак сама апынулася на раздарожжы ў зьвязку з матэр'яльным крызысам, які перажывае беларуская прэса і наагул беларуская інтэлігэнцыя.

Дзе-ж выхад? Ня ўсім-жа па дарозе да Усходняе Беларусі.

# Стан Украінскага школьніцтва у Польшчы.

18 сьнежня ў Варшаве адбылося пад кіраўніцтвам б. міністра Ст. Тугута паседжаньне „Instytutu Badań Spraw Narodowościowych", пасьвечанае Украінскаму пытаньню ў Польшчы. На гэтым паседжаньні пасол М. Яворская прачытала рэфэрат на тэму „Стан Украінскага школьніцтва ў Польшчы," з якога відаць наступнае:

У 1927-28 г. на абшары Усх. Галіцыі было ўсяго 4,668 дзяржаўных пачатковых школаў, з якіх з польскаю мовою навучаньня — 954, украінскаю — 646, утраквістычных (украінскаю і польскаю) — 1,675, нарэшце польскіх з украінскаю мовою навучаньня — 1,292.

Лік настаўнікаў паводле даных 1628-29 г прадстаўляецца ў наступным відзе: палякаў — 8,727, украінцаў — 3,123, разам — 12,727. Прыватных пачатковых школаў на гэтым абшары ёсьць: 27 польскіх, 27 украінскіх, а ўсяго, — 135.

Стан школьніцтва сярэдняга: дзяржаўных сярэдніх школаў 60, з якіх 54 польскіх і 6 украінскіх. Усе вучыцельскія сэмінары, акрамя аднае імені Асныка у Львове — утраквістычныя. Дзяржаўных — 27, прыватных, карыстаючыхся правамі — 30. Лічба настаўнікаў у сэмінарыях складае 1,048, з якіх 725 палякаў і 294 украінцаў.

На Валыні дзяржаўных пачатковых школаў ёсьць: польскіх — 375, украінскіх— 15, утраквістычных — 517 і польскіх з украінскую мовою выкладаньня —348. Прыватных пачатковых: польскіх —6, украінскіх — 2, утраквістычных — 2 і польскіх з украінскаю мовою навучаньня 1.

Як на абшары Усх. Галіцыі, гэтак і Валыні абавязуе закон ад 31 ліпня 1924 г. аб школьніцтве нацыянальных меншасьцяў.

Пасьля рэфарату распачалася дыскусія, у якой прынялі ўдзел б. міністар Л. Васілеўскі; С. Тугут, гэн. Бабяньскі, адв. Лупасэвіч, праф. Смал—Стоцкі і іншыя. Л. Васілеўскі выступіў катэгарычна проці утраквізму, лічачы, што падставаю навучаньня павінна быць мацярынская мова. Утраквізм, асабліва такі, які стасуецца цяпер, не дасягае мэты, дзеля якой быў уведзены: з пункту гледжаньня пэдагагічнага шкадлівы, а на практыцы зьяўляецца сродкам „Wynarodowiania" (асыміляцыі). За тым прамоўца зьвярнуў увагу на зусім недастатачнае здаваленьне патрэбаў украінскага народу ў галіне школьніцтва на Валыні, хаця ласьне там пераважаючым тыпам школы павінна быць школа украінская.

Старшыня сабраньня п. Тугут заявіў, што лічыць сваім абавязкам сьцьвердзіць, што разам з б. міністрам Ст. Грабскім браў удзел у выпрацоўцы школьнага закону ад 31.VII.1924 г. У той час я, кажа п. Тугут, быў пераканаPны, што сумленна выкананы гэты закон можа зусім здаволіць школьныя патрэбы нац. меншасьцяў на Усходніх землях і разьвяжа гэтую заблытаную праблему. Тэндэнцыяй гэтага закону ня была полёнізацыя украінскага школьніцтва на Валыні. Утраквізм, стасаваны згодна з духам зако-

ну, дапяў-бы практычнае мэты, палягаючай па навучаньні грамадзян абедзьвюх нацыянальнасьцяў мове, веда якой патрэбна у штодзенным жыцьці. Але да закону былі выдавы выканаўчыя загады пярэчныя з духам закону, якія амаль цалком перакруцілі тыя прынцыпы, на якіх апіраўся закон.

Далей прамоўца сцьвярджае, што стараўся ўплываць на тое, каб гэтыя дадатковыя загады былі адпаведна апрацованы, а затым зьменены, але бясскутэчна. Дзеля гэтага цяпер, бачачы пярэчныя з яго паглядамі вынікі закону ад 1924 г., зьняў-бы свой подпіс з гэтага закону, калі-б гэта мог і калі-б гэта магло мець якое-небудзь значэньне, бо лічыць, што ў жыцьцёвым інтарэсе дзяржавы суменнае і толеранцыйнае выкананьне асьвятовых пастулятаў украінскага насяленьня ў Польшчы...

Як бачым, сам тварэц закону ад 31.VII.28 г. п. Тугут прызнае недастатачнае выкананьне гэтага закону у адносінах украінскага народу. А што-ж астаецца сказаць аб беларусах з іх 21 беларуска—утраквістычнымі пачатковымі школамі!?.

# Палітычная хроніка

## З ПОЛЬШЧЫ

### Адстаўка Міністра Мэйштовіча.

Непарлямантарны кабінэт Маршалка Пілсудзкага складзены з гэтак званых спэцыялістаў. У яго склад увайшлі прадстаўнікі розных палітычных кірункаў, пачынаючы ад сацыяліста Марачэўскага і канчаючы ўжо вышаўшым у адстаўку кансэрватарам, віленскім абшарнікам Мэйштовічам. Трымаецца незалежна ад Сойму і Сэнату на асабістым даверы Маршалка Пілсудзкага. Дык тым больш дзіўным здаецца, чаму пасьля двух гадоў урадаваньня Міністр Мэйштовіч аказаўся неадпаведным свайму становішчу.

Пасьля адстаўкі Мэйштовіча афіцыяльны орган кабінэту Маршалка Пілсудзкага „Głos Prawdy" у навагоднім нумары выступіў з вельмі рэзкім артыкулам па адрэсу ушоўшага Міністра, за што быў канфіскаваны. Але канфіскацыя даткнулася толькі нумароў газэты, якія прадаваліся ў Варшаве, у той час, як уся правінцыя атрымала нумар газэты і на'т некаторыя газэты, як „Dziennik Wilenski", здолелі цалком перадрукаваць гэты артыкул на трэці дзень і ня быў канфіскаваны. Тады у наступным чарговым нумары „Głos Prawdy" зьмясьціў новы артыкул проці Мэйштовіча, за які ня быў ужо канфіскаваны, і ў якім паўтарыў амаль тое самае, што і ў сканфіскаваным, а ласьне, што абвінавачвае Мін. Мэйштовіча у масавых камуністычных працэсах у Зах. Беларусі, што вельмі шкодзіць Дзяржаве ў вачох заграніцы. Гэтакае нетактоўнае выступленьне афіцыяльнага органу проці Міністра, назначанага Маршалкам, выклікала вялікае абурэньне на'т сярод „санацыйнае" прэсы. Апазыцыйная сацыялістычная і эндэцкая прэса, зразумела, задаволена з гэтага факту. Эндэцкая прэса ўжо прарочыць хуткі развал „едынкі", сярод якой быццам пачаліся ўнутраныя трэньні. А прэм'еру Барталю прышлося ў адкрытым пісьме ў прэсе выразіць убаляваньне з прычыны здарыўшагася...

Вось ніхто гэтак, як свой... Трэба адцяніць, што рэдактар „Głosu Prawdy" р. Спічынскі за час урадаваньня Мін. Мэйштовіча быў некалькі разоў караны па суду за розную брахню ў прэсе, але дзякуючы заступніцтву Міністра справядлівасьці, ніводнае кары не адседзіў. Дык вось-жа аддзякаваў яму за гэта.

### Рэха стуку Штрэзэмана кулаком па стале ў Лугана.

Стук Штрэзэмана па стале у Лугана пры спатычцы з Міністр. Залескім адклікнуўся жывым рэхам у Нямеччыне, Францыі і Польшчы. Гэты спосаб рэагаваньня нямецкага прадстаўкіка ў Лізе Народаў на закіды з боку польскага Міністра спаткаў у Нямеччыне агульную апрабату і здаволенасьць. Гэты стук кулаком хвілёва аслабіў і аддаліў унутраны палітычны крызыс у Нямеччыне. Гэты стук хвілёва прымірыў нямецкіх нацыялістаў, не задаволеных уступчываю палітыкаю Штрэзэмана, з сацыялістымі. А падпісаньне дагавору з бальшавікамі заспакоіла і задаволіла і нямецкіх камуністаў.

Што датычыць францускае публічнае апініі, дык, што вельмі характэрна, большасьць адклікнулася прыхільна для немцаў. Францускія радыкалы і сацыялістыя, не гаворачы ужо аб камуністых, складаючы большасьць у францускім парляманце, увесь час стаяць за згоду з немцамі. Цяпер-жа адкрыта пачалі выяўляць свае сымпатыі да немцаў з адначасовай незадаволенасьцю польска-францускім хаўрусам, які быццам перашкаджае нямецка-францускаму зьбліжэньню. Зусім зразумела, што французы зьнемагаюць пад цяжарам мілітарызму, а страх будучага рэваншу з боку Нямеччыны не дае ім супакою. Дык няма нічога дзіўнага, што радыкальна-сацыялістычная француская апінія выступае за нямецка-францускае зьбліжэньне, якое можа быць куплена толькі цаною француска-польскае дружбы.

І некаторыя з французаў, як, напр., лідэр францускіх сацыялістаў Лявон Блюм, не затрымліваюцца перад гэтым.

У Польшчы гэты „стук нямецкага кулака“ зрабіў дваякае ўражэньне. Афіцыяльная прэса маніцца зацерці факт ня зусім прыхільнага становішча Брыяна ў адносінах Польшчы, бо на‘т не зрабіў увагі Штрэзэману за не „дыплёматычны“ спосаб прамовы і ўвесь час сэсіі рады разам з імі і Чэмбэрленам „конфэравалі“ і „бавіліся“, езьдзячы на лодцы і аўтамабіле на прыгожых акраінах Лугана, даводзячы, што быццам нічога не здарылася паважнага ў Лугана, між тым, як уся апазыцыйная і на‘т частка „санацыйнае“ прэсы (Віленскае „Słowo“ і „Kur. Wilenski“), у гэтым стуку бачыць першы удар немцаў па Вэрсальскаму трактату, што ў першую чаргу адзавецца на Польшчы. Дзеля таго, каб гэтак адважна стукаць па стале ў прысутнасьці двух галоўных стражнікаў Эўропэйскага міру Брыяна і Чэмбэрлена, бязумоўна трэба мець пэўнае падтрыманьне з іх боку, бо такім можна было-б наразіць сябе на гэтакі-ж адпор. Але гэта ня здарылася.

Гэтакім чынам стук нямецкага кулака на міжнароднаму сталу азначае: 1) што немцы ўжо чуюць сябе даволі акрэпшымі ў міжнарадовай палітыцы і не баяцца выяўляць сваю злосьць у прысутнасьці; 2) што гэта ёсьць першы адкрыты ўдар па Вэрсальскаму трактату, праўда пакуль сымбалічны і 3) што гэта ёсьць першая азнака пачатку дыплёматычнае атакі проці Польшчы, ці правідловей кажучы, проці польскага В. Шлёнску, Пазнані і Гданскага Калідору. Польская афіцыяльная прэса тлумачыць гэты стук Штрэзэмана яго нэрвовасьцю і адсутнасьцю дыплёматычнага выхаваньня. Але чаму нямецкія дыплёматы у працягу 10 гадоў не выяўлялі сваіх нэрваў і маўчалі, як мышы пад лаўкаю?!.

## Савецкая нота Польшчы.

У дзень Новага Году бальшавікі прыслалі Польшчы навагодні падарунак пад відам ноты. У гэтай ноце заступнік савецкага камісара па заграпічным справам таварыш Літвінаў прапануе Польшчы падпісаць з Сав. Расеяй спэцыяльны трактат, на падставе вядомага пакту амэрыканскага міністра заграпічных справаў Кэлога. Пакт гэты ёсьць падобны на лёкарнскі, з тою толькі розніцаю, што ахапляе увесь сьвет.

Як ведама, прынцыповую згоду на прылучэньне да гэтага пакту дала і Сав. Расея. Дык гэткі „міралюбівы“ настрой да бальшавікоў, у які ніхто ня верыць, здаецца вельмі дзіўным. Хаця зразумелыя тыя матывы, якія схілілі бальшавікоў да убраньня ў маску міру і прапазыкі Польшчы далучыцца да гэтага пакту. Матывы гэтыя наступныя:

1) Бальшавіком патрэбны грошы, якія можна дастаць толькі ў Амэрыцы. Дык бальшавікі хочуць зрабіць прыемнасьць буржуйцы Амэрыцы хоць тым, што прыймаюць запрапанаваны ёю пакт, якога, здаецца, і сама не ратыфіцыруе, як і не увайшла у Лігу Народаў, створаную прэзыдэнтам Вільсонам.

2) Сваім міралюбівым учынкам хоча прыкрыць узбраеньні, якія трывожаць суседзяў. А калі Польшча ня прыме прапазыкі, у чым бальшавікі не сумліваюцца, дык тады будзе апраўданьне ўзбраеньня.

Амэрыка незадаволена англійска-француcкім марскім хаўрусам і на‘т намячаецца амэрыканска-нямецкае зьбліжэньне, над якім і працуюць бальшавікі.

Але цікава тое, што Літва ужо быццам згодна далучыцца да польска-савецкае згоды. Толькі у Польшчы глядзяць на гэты новы крок бальшавікоў, як на чарговую правакацыю

---

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

## Даведаўся.

Іван Казюк быў выбраны дэлегатам на зьезд „Т-ва Беларускае Школы“... Сядзеў, сядзеў на вёсцы — газэтаў няма, няма інфармацыяў, ніхто не прыяжджае — „дай— думае—пад‘еду ў Вільню і даведаюся, што тамака і як“...

Прыехаў. Тутака яму пашанцавала адразу — натрапіў на земляка—вучыцеля. Зайшлі ў нейкую кнайпу (бо беларусам больш няма дзе сустракацца), заказалі „пару“ піва і распачалася гутарка....

— Ну, расказвай—кажа,—што тамака ў вас робіцца? Што чуваць?—Мы-кажа—амаль што ніякіх газэтаў не атрымліваем...

— Якія тамака газэты?! — адмахнуўся вучыцель...

— Што? Ня выходзяць?! — ускрыкнуў Казюк...

— Як ня выходзяць? Выяжджаюць нават — іранічна рассьмяяўся вучыцель—вось толькі сьвежанькі нумар пакажацца на сьвет Божы — зараз паліцыя, хурманкі і... паехалі газэты...

— Вось табе маеш! Знацца...

— Знацца: „За Працу“ канф‘скуецца 2 разы ў тыдзень, а „Маланка“ 1 раз у 2 тыдні... Канфіскавалі-б часьцей, але... на жаль часьцей гэтыя часопісі ня выходзяць...

— Вось яно што! Ну, а рэшта?!...

— Што „рэшта“?! „Biełaruskaja Kryniсa“ ў анафеме, „Сель-Саюз“ у банкруцтве... толькі „спадар“ пакрысе і па „собскаму“ яшчэ ходаецца...

— А як-жа палёнафільскія?...

— І тым „капут“ — „Беларускі Дзень“ на‘т ня скончыў і сваіх „успамінаў з Пэрсыі“... а „Беларускі Радны“ і рэшта ледзь зіпаюць...

— А паслы што?!...

— Паслы? Лаюцца пакрысе... „Спадар“ — Дварчаніна, Дварчанін — Спадара, а абодва разам Ярому, той сабе глядзіць на „пуза“, ды сьмяецца... „А бадай іх!“— кажа—„тутака ўжо не разьбярэшся—дзе „санацыя“,

# З ЗАГРАНІЦЫ.

## Нямецка-літоўскі гандлёвы дагавор

У сярэдзіне сьнежня быў падпісаны нямецка-літоўскі гандлёвы дагавор, на падставе якога Літва становіцца амаль што „нямецкаю калёніяй." Немцы маюць права набываць нярухомую ўласнасьць у Літве, поўную свабоду руху, гандлю. Нямецкія работнікі падлягаюць літоўскім законам абароны народу з літоўскімі і г. д. Праўда і літоўцам прадастаўлены адпаведныя правы ў Усх. Прусіі, але ім ня прыдзецца выкарыстаць іх, прымаючы пад увагу нямецкую адпорнасьць і культурна-гаспадарчую перавагу. Бяз сумліву, акрамя гэтага адкрытага гаспадарчага дагавору, ёсьць і поўная палітычная згода між Нямеччынаю і Літвою, інакш Штрэзэман не бараніў-бы Літвы на форуме Лігі Народаў і Вальдэмарас не ўчашчаў-бы гэтак часта да Бэрліну. Нямецка-літоўскі гандлёвы дагавор — гэта першы паважны пралом (брэш) у тым муры, які аддзяляе Нямеччыну ад Радавае Расеі.

У Польшчы вельмі незадаволены і занепакоены гэтым нямецка-літоўскім зьбліжэньнем, якое з часам можа перайсьці ў фармальны хаўрус ці фактычную колёнізацыю Літвы немцамі. Калі прыняць пад увагу тое, што Вэрсальскі трактат забараняе немцам неабмежавана ўзбраяцца ў сябе дома, дык хто ім забароне гэта рабіць на Літве пад відам літоўскае арміі, як гэта яны ужо і робяць у Савецкай Расеі. А затым Літва з самага пачатку выбрана, як мост для беспасрэдняе сувязі між Нямеччынаю і Расеяй. Гэтыя абставіны значна пагаршаюць сытуацыю „Віленскага калідору", які вузкаю паласою ўрэзаўся між Літвою і Сав. Расеяй і гэтакім чынам стаіць на перашкодзе здзейсьненьню немцамі свайго гістарычнага Drang nach Osten (імкненьня на Усход). Гэтым толькі і тлумачыцца ўпартасьць літоўцаў у Віленскім пытаньні.

## Нямецка-Савецкі гандлёвы дагавор.

Аднача́сова амаль з падпісаньнем нямецка-літоўскага гандлёвага дагавору быў падпісаны і нямецка-савецкі гандлёвы дагавор. У даным выпадку мова ідзе не аб новым дагаворы, але аб поўных зьменах і дапаўненьнях да старога, які быў падпісаны у 1924 г. і пры застасаваньні да жыцьця аказаўся нерэальным дзеля розніцы палітычна-гаспадарчых ладаў абедзьвюх старон. Гутаркі аб гэтым пераглядзе дагавору вяліся больш двух гадоў, але Немцы усё адкладалі з падпісаньнем яго дзеля поўных палітычных матываў.

Справа ў тым, што каля трох гадоў таму назад Немцы зьмянілі кірунак свае заграпічнае палітыкі, уступілі на шлях гэтак званае Лёкарнскае палітыкі, г. значыць згоды зьбліжэньня з заходнімі дзяржавамі. Першым крокам на гэтым шляху было уступленьне Немцаў у Лігу Народаў, у Радзе ім гварантавана сталае мейсца. Але гэтая палітыка вымагала поўнага разрыву з Саветамі, з якімі ў Немцаў ёсьць палітычны Рапальскі хаўрус, і якія зьяўляюцца рашучымі ворагамі Лігі Народаў, Англіі і Францыі і бурыцелямі міру на Усходзе. І Немцы ў працягу 2 - 3 гадоў моцна трымаліся гэтага кірунку ў палітыцы, пакуль не разачараваліся. Уступленьне на лёяльны шлях палітыкі ў адно-

---

а дзе правакацыя... і працаваць адпадае ахвота..." Чакае ўсё, каб хутчэй Тарас прыехаў...

— А з „Таварыствам Школы" як?

— Як з усімі беларускімі прасьветнымі арганізацыямі.

— Заміраюць і... лявеюць... Інстытут Гаспадаркі і Культуры канае ў маленькай канурцы на Завальнай 7. Сваё памешканьне з саляй, са сцэнай і на'т з думкамі аб сталым тэатры здаў пад польскую „крупёлку", а старшыня кіраўніцтва Інстытуту зьмяніў ва кіраўніцтва аўтабусамі...

— Ну і падзеі у вас — ўсё дзівіцца Казюк,— а як-жа Улады да ўсяго гэтага?!..

— Улады?! Улада заўсёды, як улада... Чырк пяром — і „Зьезду" няма... Не пашкадавалі на'т сваіх палёнафілаў — перад самым сьвятам на зіму 42 працаўнікоў выкінулі на брук...

— Поўна „не скакалі, як ім казалі"...

— А хто іх разьбярэ... Адзін стаўся не патрэбным, бо занадта шумеў і лаяўся, другі, быццам, мала шумеў і не лаяўся... але... хто іх ведае... як той казаў — „свая сваіх не пазнаша"...

Казюк скроб сабе патыліцу. „Праўда — кажа — бачу, што ў вас тутака блага, але затое падгатаўляецца грунт да адзінага фронту"...

— Што ты, што ты?! Кінь! гэта ў вас на вёсцы... А ў нас пакуль не перагрызуць горла адзін аднаму, нічога ня будзе... Кожны са сваей нары толькі і бачыць сьвету... Поўнае безгалоўе!... Санацыю, дык і тую праводзяць неяк цішком... няма адвагі... А ты кажаш адзіны фронт!.. Тутака трэба моцнай рукі і галавы... Адкрыта! Тады толькі мы знойдзем адзіны фронт і кірунак...

— Так, так... — патакаваў Казюк, але нешта раптам падняўся...

— Мне пара ўжо... Бывай...

— Куды-ж ты? Пачакай... Пойдзем яшчэ куды... пабачым каго...

— Не, годзе! Паінфармаваўся!...

І пацягнуўся Казюк на вакзал.

Г-ка.

сінах сваіх пераможцаў цаною поўных стратаў у Савецкай Расеі, ня здзейсьніла надзеі Немцаў ні на палёгкі ў рэпарацыйных плацяжах (кантрыбуцыя), ні ў хутчэйшай эвакуацыі Прырэйнскае вобласьці. А калі не рассеяла гэтага разачараваньня і апошняе спатканьне Штрэзэмана з Брыянам і Чэмбэрленам у Лугана, дык Немцы зноў рашылі папробаваць сваю старую сыстэму запалоханьня Заходу Радаваю Расеяю, як і ў першыя гады пасьля вайны. І першым крокам у гэтым кірунку было падпісаньне гандлёвага дагавору з Саветамі пасьля прыезду Штрэзамана з Лугана. Супадак па часу падпісаньня Нямецка-савецкага гандлёвага дагавору з Нямецка-літоўскім вельмі вымоўны факт для пераважываемага палітычнага моманту. Гэта ў першую чаргу павінна зацікавіць Польшчу, як беспасрэдную суседку з названымі трыма дзяржавамі, якія увесь час ухіляюцца ад аканчальнага унармаваньня гандлёвых, а Літва на'т і палітычных адносінаў.

### Дзіўная роля Літвы.

Паводле афіцыяльных вестак з Коўны, Літва ня толькі сама згадзілася на прапазыку Саветаў Польшчы далучыцца сумесна да пакту Кэлога, але на'т зьвярнулася з адпеведнымі прапазыкамі да Латвіі і Эстоніі. Вельмі дзіўная пакорнасьць у адносінах Масквы. Штосьці пад гэтаю пакорнасьцю крыецца.

### Гаспадарча-фінансавы стан Нямеччыны.

Немцы, як ведама, увесь час жаляцца на тое, што ня могуць плаціць рэпарацыяў (кантрыбуцыі) пераможцам. Дзякуючы гэтаму манэўру ім удалося першапачатковую суму у 375 мільярдаў (ня мільёнаў) зьменшыць да 50 па пляну Даўса. Цяпер яны дабіваюцца яшчэ далейшага зьмяншэньня. І ўжо вызначана спэцыяльная канфэрэнцыя экспэртаў Амэрыкі, Англіі, Францыі, Японіі, Італіі і Бэльгіі для перагляду рэпарацыйнага пляну. Гэтая канфэрэнцыя адбудзецца у бягучым месяцы.

І вось у гэты самы момант камісар па рэпарацыйным справам у Нямеччыне, амэрыканец Паркер Гільбэрт апублікаваў у прэсе рапарт аб фінансава-гаспадарчым стане Нямеччыны, які зьяўляецца для ўсяго сьвету ўпрост сэнсацыяй. Гэты рапарт з аднаго боку зашкодзіў немцам перад канфэрэнцыяй экспэртаў, а з другога падняў іх аўтарытэт перад усім сьветам. Паводле гэтага рапарту, немцы могуць зусім лёгка выплачываць у год 2 500 мільёнаў марак (1 марка 2,12 зл.). Гэта складае прыблізна два польскіх гадавых бюджэты. Гільбэрт кажа, што нямецкая фінансава-гаспадарчая сытуацыя гэтак моцна стаіць, што ў бягучым годзе яны могуць заплаціць гэтую суму з надвышкі экспарту (вывазу) пад імпартам (а ў нас стала пасыўны гандлёвы балянс, хаця ня плацім нікому ніякіх рэпарацыяў). У мінулым годзе было выплачана 1,739 мільёнаў марак, з якіх 943 мільёны золатам з дзяржаўнага банку. Ня гледзячы на гэта нямецкая марка — кажа Гільбэрт — належыць да самых моцных валютаў у Эўропе.

Да гэтага польскія газэты ад сябе яшчэ далучаюць:

Паводле Бэрлінскае газэты „Berl. Tgb." за 11 месяцаў 1928 г. Нямецкі дзяржаўны банк павялічыў запас золата на 760 мільёнаў марак.

Паводле „Fr. Ztg." розныя ашчаднасьці Немцаў у 1928 г. дасягнулі 9 мільярдаў марак.

У працягу 1928 г. было выбудавана 290,000 памешканьняў, у той час як тэорэтычна патрэбнасьць у новых кватэрах вылічана ў 220,000 памешканьняў. На гэтае будаўніцтва выдаткавана 3 мільярды марак.

Затым сацыялістычны орган „Vorwärts" у лічае цэлы шэраг галінаў прамысловасьці в якіх выдатнасьць працы узрасла ад 20 да 70 проц. у параўнаньні з папярэднім годам і на'т пераважыла даваенную.

Дзякуючы гэткай прадукцыйнай працы немцы заслужылі гэткі давер сярод амэрыканскіх фінансавых колаў, што Амэрыка зрабіла іх нібыта сваім даверaным па грашовым справам на ўсю Эўропу. Амэрыканскія пазыкі усходнія і паўдзённа-Эўрапейскім дзяржавам ідуць праз рукі Немцаў. Пасьля 1924 г. праз Нямецкія рукі прайшло 10 мільярдаў марак амэрыканскага капіталу.

З іх хочуць быўшыя пераможцы скуру злупіць, каб не паўсталі больш, а яны толькі мацнеюць.

# Новая арганізацыя Польскага Суда.

З першага студня 1929 г. уваходзіць у жыцьцё загад Прэзыдэнта Рэспублікі ад сакавіка 1928 (Dz. U. R. P. Nr 12 § 93) пад назваю „Закон аб арганізацыі агульных судоў," уводзячы грунтоўныя зьмены у істнуючы ў Польшчы законы. На падставе гэтага закону арганізацыя судаводзтва у агульных рысах будзе выглядаць гэтак:

### МІРАВЫЯ СУДЫ,

**якія будуць адкрыты ў некаторых гмінах.**

Суды гэтыя будуць разглядаць іскі да 200 зл. за выняткам справаў: а) узьнікшым па вэксалёх, чэках, аблігацыях ці іншых падобных вартасьцёвых паперах; б) аб правох на нярухомасьці, гіпотэкі і г. д.; в) у якіх абвінавачаным зьяўляецца Скарб, як публічна-прaўная асоба.

Міравыя судзьдзі выбіраюцца. Выбраным можа быць кожны польскі грамадзянін маючы 30 гадоў, бязупрэчнага павядзеньня працаздольны, валадаючы вусна і пісьменна польскаю моваю і з адукацыяй прынамся 6 кляс польскае сярэдняе школы. Выбары адбываюцца праз 3 гадоў. Паводл

# „Рай“ на Крэсах.

„Ваяводы павінны аказваць уплыў на павятовыя аддзелы.. ...каб... вызначаліся спэцыяльныя выдаткі на абсадку дрэвамі дарогаў, у першую чаргу пладовымі дрэвамі.. Праца павінна быць выканана... да канца лістападу 1929 году.“

„Беларускі Радны“ № 9(11) 1928г

Што маліцца, лезьці ў вочы
Богу міламу, сьвятым,
І прасіць жыцьця па сьмерці
Для душы у раю тым?
Ды ня ведама, ці кожна
Пападзе душа у рай.
Бо жывём мы ў Беларусі,
Беларусь-жа — грэшны край!
А нарэшце, і ня варта
Для душы аб раю дбаць,
Бо-ж была-б душа жывою
Трэба целам паміраць!
Дык ці-ж варта, беларусы,
Клапаціцца у той час,
Як у нашым грэшным краю
Вось будуюць рай для нас?
Тэй пары, для нас шчасьлівай,
Ня прыдзецца доўга ждаць,
А каб жыць у гэтым раю,
Дык зусім ня трэ' ўміраць.
Так, сяляне, „рай“ на Крэсах
Аж да году будзем, мець
І прыгожа будзе, міла
З боку кожнаму глядзець,
Усе дарогі, нават сьцежкі
Садавінай абрастуць.
Грушы, яблыкі з тых дрэваў
Проста ў рот усім палятуць.
А між дрэваў—садавіны
Усе парайску будуць жыць,
І сяляне і сялянкі
Будуць голымі хадзіць,
Пагалеюць проста цудам
Грэшных вёсак жыхары,
Бо-ж на кошты самаўрадаў
Рай той будзе нам даны.
Прывязуць у вёскі крэйды
Так-жа вапны шмат вазоў,
І сялянскі грэшны хаты
Усе абеляць ад грахоў.
Над пякучай гэтай справай
Будуць „хамы“ працаваць
І ад радасьці і шчасьця
Песьні райскія пяяць!
Дык ці-ж варта, беларусы,
Клапаціцца у той час,
Калі ў нашым грэшным краю
Рай будуецца для нас?

Ўлад-Ініцкі.

---

гэтая ганаровая, аднак-жа судзьдзя можа атрымліваць пэнсію за патрачаны час. Ня могуць быць выбранымі: паслы Сойму і сэнатары, вайсковыя актыўнае службы, дзяржаўныя ці камунальныя урадоўцы, адвакаты, натарыусы, сьвяшчэньнікі і манахі.

**Гарадзкія Суды.**

Апэляцыйныя жалабы на пастановы Міравых Судоў будуць разглядаць — аканчальна — Суды Гарадзкія. Яны зьяўляюцца і 1-ай інстанцыяй адносна справаў аб маемасьцях да 1000 зл. (таксама вэксалёвыя справы) і адносна ня шлюбнага бацькоўства (алімэнты), незалежна ад разьмеру прэтэнсіі.

**Акружныя Суды.**

У Судох Акружных справы да 10.000 зл. разглядае адзін судзьдзя, вышэй 10.000 зл. — трыбунал з 3-х судзьдзяў.

# Тутэйшая хроніка.

— **З НОВЫМ ГОДАМ!** Рэдакцыя віншуе паважаных сваіх чытачоў з Новым Годам!

— **10-ыя ўгодкі Беларускай Радавай Рэспублікі.** Як паведамляюць польскія газэты, ў Менску 1-га студня адбыўся урачысты абход 10-х угодкаў незалежнасьці Бел. Рад. Рэспублікі. Да гэтага дня як раз было прыстасавана ўрачыстае адкрыцьце Беларускае Акадэміі Навук, у якую засталіся залічанымі 22 першых праўдзівых сяброў. У лік гэтых сяброў уваходзяць між іншымі беларускія паэты Я. Купала і Я. Колас, а гэтак сама адзін віленчук б. пасол Тарашкевіч, які, як ведама, засуджаны ў працэсе „Грамады“ і ў сучасны момант адбывае гэты засуд у турме. Далей на сяброў выбрана 5 асоб ад Расейскай Акадэміі Навук і 4—ад Украінскай Акадэміі. На прэзыдэнта вызначаны прафэсар Ігнатоўскі б. прэзыдэнт Інбэлькулта.

У Менскай газэце „Зьвязда“ зьмешчана прывітальная тэлеграма ад нашых паслоў Гаўрыліка, Дварчаніна і Валынца.

— **Аб дапамозе пацярпэўшым ад неураджаю.** 8 студня адбылося паседжаньне сяброў Віленскае Рэгіёнальнае Групы Б.Б. дзе між іншымі справамі разглядалася і справа аб дапамозе жыхаром неураджайных паветаў — Браслаўскага, Дзісьненскага, Пастаўскага і Сьвянцянскага. Матэр'ялы якія сабралі сэкрэтар'ят і сябры групы, паказалі выразна, што дасюляшняя Урадавая дапамога ня ёсьць задавальняючай, а дзеля гэтага ухвалілі, каб як найхутчэй зьвярнуцца да

Старшыні Рады Міністраў з просьбай аб павялічэньні апрэвізацыйнай дапамогі земляробам ў натуры. Далей прасіць Урад аб зарганізаваным падкармліваньні дзяцей у школах і дапамозе ім у цёплых вопратках і абутку.

**— Закрыцьце аддзелу Т-ва Бел. Школы у Клецку.** Карэспандэнт газ. „Słowo" паведамляе аб закрыцьці у Клецку аддзелу Т-ва Беларускае Школы, дабаўляючы ад сябе, што „пажадана было-б закрыцьце і беларускае Гімназіі у Клецку"...

Чаго-ж, можа вароны і накаркаюць. Калі зачынілі Радашкоўскую Гімназію, дык чаму-ж ня можна зачыніць і Клецкую. Усё магчыма.

**— Ад Адміністрацыі.** Адміністрацыя „Грамадзяніна" паведамляе сваіх паважаных чытачоў, што з наступнага нумару газэта нікому без падпіскі высылацца ня будзе, акрамя бібліятэкаў Т-ва „Прасьветы" і сябраў Самаўрадавага Камітэту.

# Усячына.

### Пасьляваеннае „разбраеньне"

Ня гледзячы на тое, што яшчэ не залечаны раны мінуўшае вайны, ня гледзячы на Лігу Народаў, Лёкарно, новы пакт Кэлога і нарэшце поўнае разбраеньне Нямеччыны, усе народы зноў да шаленства узбраяюцца. Цяперашняя рэгулярная армія Эўропэйскіх дзяржаваў большая, чым была у 1914 г., калі немцы мелі 800,000 армію, а цяпер 100,000.

Францускaя армія у 1929 г. будзе лічыць 654,000 чал.

Ад 1914 г. да 1922 г. выбудавана ваенных суднаў: у Італіі—69 000 тон., у Японіі — 465,000 тонаў, у Амэрыцы — 870,000 т. і Англіі—1,170,000 т.

Жэнэўскую конвэнцыю, забараняючую газавую вайну, да гэтае пары ратыфікавалі толькі 6 дзяржаваў.

І проці каго-ж яны узбраяюцца?! Каго баяцца, калі Аўстра—Вэнгрыі няма, а немцы разброены?

# Навука і тэхніка.

### Адкрыцьце тайны «Грубай Бэрты»

Тайна, акружаючая да гэтае пары вялізарную гармату, гэтак зв. „Грубую Бэрту," з якой немцы абстрэлівалі Парыж больш як на 100 кіляметраў, цяпер ужо высьветлена ангельскім ваенным міністэрствам, якое падае некалькі наступных рысаў гэтай пякельнай машыны:

Паводле гэтых інфармацыяў, гэта гармата у пачатку была роблена для 8, 27 цалёвых снарадаў, але пасьля некаторага часу карыстаньня выкруцілі дула да 9, 45 цалёвага калібру. Дула складалася з дзьвёх частак агульнае даўжыні 39,5 мэтраў.

Уся гармата важыла 145,000 кілеграмаў (9,000 пудоў). Снарад вышыні 2 мэтры, важыўшы 1,200 кілеграмаў (75 пудоў), вылятаў з дула з хуткасьцю 1,5 кіляметраў на мінуту. Дасяжэньне снараду — 120-130 кіляметраў, прычым снарад павінен быў падняцца на 38 кіляметраў угару, каб дасягнуць да гэтае максымальнае мэты.

Гэта дыстанцыя дасяжэньня снараду „Грубай Бэрты" перавышала у тры разы дыстанцыю, на якую стралялі да гэтае пары самыя магутныя гарматы,

А якіх-жа неспадзевак спадзявацца у будучую вайну?!..

# З падслуханых гутарак.

### Клюб беларускай інтэлігэнцыі.

— Чуў! Кажуць, ужо адчыніўся клюб для беларускай інтэлігэнцыі, дзе ўсе палітычныя кірункі могуць свабодна спатыкацца?

— Што ты кажаш?! А дзе?!..

— А на вуліцы Субач, у „Państw Urzędzie Pośrednictwa Pracy", дзе штодзённа ўсе беларусы спатыкаюцца...

### Не дагадлівы.

— Чаму гэта нашыя радыкальныя часопісі канфіскуюцца не аднолькава: „За Працу" 2 разы ў тыдзень, а „Маланка" 1 раз у 2 тыдні?!..,

— Бо першая выходзіць 2 разы у тыдзень, а другая 1 раз у 2 тыдні. КУЛЯ.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друк. ім. Фр Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.